# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№7 (266)
ліпень 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Іна Валіцкая: Minsk x Minga – самы буйны беларускі фестываль у Заходняй Еўропе

Сяброўка Пашыранай Рады згуртавання беларусаў Германіі "RAZAM e. V." і суарганізатарка фестывалю "Minsk x Minga" Іна Валіцкая распавяла, як паўстаў буйны фестываль беларускай культуры ў Баварыі, чым ён адрозніваецца ад "Мюнхеншчыны" і якую падтрымку аказваюць нямецкія ўлады беларускім творцам.

Старонка 5





# ФОНД "КАМУНІКАТ" АДКРЫЎ ІНТЭРНЭТ-КНІГАРНЮ

Набываць папяровыя выданні можна з усяго свету. З часам маюць з'явіцца ў продажы і электронныя кнігі. Першыя замовы ўжо даляцелі да пакупнікоў.

Інтэрнэт-бібліятэка "Камунікат" існуе ўжо хутка чвэрць стагоддзя і з'яўляецца адным з найбуйнейшых у свеце збораў крыніц на беларускай мове. Пасля падзей 2020 года, калі "гайкі" пачалі закручвацца ў тым ліку для выдаўцоў і аўтараў беларускай літаратуры, "Камунікат" узяўся за выданне папяровых кніг.

У сярэдзіне чэрвеня фонд "Камунікат" адкрыў інтэрнэт-кнігарню. Гэтая падзея планавалася некалькі апошніх месяцаў. Стваральнік знакамітай бібліятэкі, беларус з Беласточчыны Яраслаў Іванюк распавёў пра місію сваёй выдавецкай справы, юрыдычныя складанасці, малавядомыя тэксты Васіля Быкава і планы па пашырэнні даступнасці беларускай літаратуры.

**– Я ведаю, што ў вас былі планы адкрыць інтэрнэт-краму раней. Наколькі гэта было складана? З якімі перашкодамі ці праблемамі сутыкнуліся?**

– Як кажуць людзі старэйшага пакалення, не смяшы сваімі планамі Господа Бога. Мы сапраўды мелі планы адкрыць інтэрнэт-кнігарню нашмат раней, але мы як фонд *Kamunikat.org* – зусім невялікая арганізацыя. Справамі, звязанымі с заснаваннем інтэрнэт-крамы, займалася дзве асобы і, вядома ж, праграміст, наняты звонку.

Шмат часу трэба было прысвяціць фармальна юрыдычным справам – розным дакументам, якія патрэбныя, каб гэта адкрыць. Я і сам, шчыра кажучы, не думаў, што гэта будзе так складана. Трэба было таксама дастасаваць гэтую краму так, каб кожны, хто заходзіць, мог спакойна, без праблем набыць кнігі, аплаціць іх і, калі ён у Польшчы, атрымаць сеткай пачкаматаў *InPost* – гэта вельмі зручна. Калі хтосьці набывае кнігу сёння, то найпазней паслязаўтра гэтая кніга будзе ўжо ў яго.

Ужо ёсць замовы, ужо кнігі да нашых пакупнікоў даляцелі, дайшлі. Яны ўжо задаволена імі карыстаюцца.

**– Ёсць магчымасць набываць кнігі за межамі Польшчы?**

– Можна набываць з усяго свету. Там могуць з'явіцца нейкія складанасці, але яны вырашаюцца вельмі хутка.

**– Якая колькасць кніг зараз даступная для замовы, і якія планы па пашырэнню асартыменту?**

– На дадзены момант у нас ёсць кнігі, выдадзеныя фондам "Камунікат". Гэта ўжо амаль 40 кніг. Ёсць таксама кнігі, выдадзеныя або нашымі партнёрамі, або пры падтрымцы "Камуніката".

Спадзяюся, што з часам гэтых кніг будзе больш. Будуць таксама кнігі іншых беларускіх выдавецтваў. Некаторыя, пэўна, будуць толькі пад заказ, іншыя будуць даступныя адразу. Будзе таксама пашырацца асартымент кніг, выдадзеных фондам Kamunikat.org.

Працяг на старонцы 2.

навіны

# ГОМЕЛЬЦА ВЯЧАСЛАВА БОРТНІКА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ Ў ЗША ЗА ВАЛАНЦЁРСТВА

Прэзідэнцкую ўзнагароду ўручаюць у ЗША тым, хто аддаў валанцёрскай службе заўважную частку свайго жыцця. Залаты медаль за 2023 год атрымаў гомелец Вячаслаў Бортнік.



"На працягу ўсёй гісторыі нашай краіны амерыканская гісторыя ўмацоўвалася тымі, хто спалучае ў сабе аптымізм у дачыненні да таго, што можа быць, і стойкасць, каб увасобіць гэтае бачанне ў рэальнасць", – было сказана ў суправаджальным лісце з Белага дому.

Ад імя амерыканскага народа Вячаславу выказалі шчырую ўдзячнасць за яго "добраахвотную лідарскую ролю" і заклікалі "працягваць адказваць на заклік служыць", бо "краіна разлічвае на вас".

**– Вячаслаў, што гэта за ўзнагарода і каму яна ўручаецца?**

– Прэзідэнцкая ўзнагарода за валанцёрскую службу была заснавана ў 2003 годзе Прэзідэнцкім саветам па службе і грамадзянскаму ўдзелу, каб прызнаць важную ролю валанцёраў у жыцці і нацыянальнай ідэнтычнасці ЗША. Гэта ўзнагарода ўшаноўвае людзей, чыя служба станоўча ўплывае на супольнасці ва ўсіх кутках краіны і натхняе навакольных на дзейнасць.

Яна ўручаецца пры любой адміністрацыі, ушаноўваючы добраахвотнікаў, якія выкарыстоўваюць свой час і таленты для вырашэння некаторых з самых складаных задач, якія стаяць перад краінай.

**– Ці ўпершыню ты атрымаў такую адзнаку?**

– Гэта мая пятая Прэзідэнцкая ўзнагарода за валанцёрскую службу. Першую (срэбраную) атрымаў у 2000-м, яшчэ пры Трампаўскай адміністрацыі. Сёлета ўпершыню атрымаў золата.

Залатая ўзнагарода ўручаецца за больш чым 500 валанцёрскіх гадзін, што прыблізна 10 гадзін на тыдзень.

Усё маё жыццё – гэта збольшага валанцёрства, з самага дзяцінства. Былі гады ў маёй біяграфіі, калі валанцёрства было значна болей, чым працы за грошы.

Напрыклад, я 25 гадоў валанцёрыў у *Amnesty International*.

**– А дзе праходзіла твая валанцёрская дзейнасць у мінулым годзе?**

– Летась валанцёрыў у розных беларускіх і ўкраінскіх арганізацыях, нашай прафесійнай асацыяцыі (выпрабляў штомесячны часопіс і вёў сацсеткі), прадстаўляў экспертную падтрымку праваабарончым арганізацыям, займаўся ментарствам, падтрымліваў мясцовыя арганізацыі, якія дапамагаюць тым, хто апынуўся ў нядолі, а таксама бяздомным жывёлам, валанцёрыў у любімым тэатры.

homeldays.org

# ФОНД "КАМУНІКАТ" АДКРЫЎ ІНТЭРНЭТ-КНІГАРНЮ

Працяг са старонкі 1.

У нас з'явілася некалькі новых кніг, якія ўжо даступныя, прыкладна пад юбілей Васіля Быкава 19 чэрвеня (у гэты дзень споўнілася 100 гадоў з дня народзінаў народнага пісьменніка Беларусі. – Аўт.). Мы выдалі кнігу з дзвюма аповесцямі геніяльнага пісьменніка – "Бліндаж" і "Афганец". Яны малавядомыя беларускаму чытачу, пры жыцці аўтара зусім не друкаваліся, і таму мы вырашылі менавіта гэтай кнігай ушанаваць памяць Васіля Быкава.

Вельмі б нам хацелася яшчэ ў гэтым годзе выдаць адну кнігу Быкава. Мы пачалі размову пра атрыманне аўтарскіх правоў. Хочам да канца года таксама выдаць "Споведзь" Ларысы Геніюш. Таксама вядзем размову пра выданне адной вельмі важнай, я лічу, для беларускай літаратуры кнігі, пра якую пакуль не буду гаварыць. Няхай гэта застанецца неспадзяванкай.

А нядаўна мы аддалі ў друк вельмі цікавае чытво – кнігу Змітра Дзядзенкі, дэтэктыўны раман "Гульні Цырцэі". Спадзяюся, што ў пачатку ліпеня гэтая кніга будзе ўжо даступная ў продажы.

**– У чым асаблівасць інтэрнэт-крамы "Камунікат"? Ці ёсць нейкі прынцып у падборы літаратуры?**

– "Камунікат" у асноўным застаецца інтэрнэт-бібліятэкай, дзе сабрана на гэты момант амаль 60 тысяч беларускіх публікацый, кніжак, часопісаў, газет, аўдыёкніг, якія мы пачалі запісваць больш за два гады таму. А інтэрнэт-крама – гэта кнігі, якія мы пачалі выдаваць тры гады таму, напрыканцы 2021 года, калі да мяне звярнуўся Уладзімір Някляеў, бо яго новы раман "Гэй Бэн Гіном" у Беларусі ніхто не хацеў друкаваць. Гэтая кніга прысвечана ў асноўным пошукам адказу на пытанне "Як загінуў Янка Купала?"

Магу сказаць, што гэта была першая ініцыятыва, каб выдаць кнігу такога мэтра беларускай літаратуры на беларускай мове па-за межамі краіны.

Прычына была ў тым, што тады ўжо было шмат беларускай эміграцыі ў Польшчы, у Еўропе, і гэтыя беларусы патрабавалі сваёй літаратуры, патрабавалі нечага беларускага. Нечага, да чаго б можна было дакрануцца, што б прыгадвала ім Беларусь, якую яны не па сваёй волі пакінулі.

Ужо тады, выдаючы першую кнігу Уладзіміра Някляева, я ў адным з інтэрв'ю сказаў, што "гэта, на жаль, паспяховы праект". На жаль – таму што гэтыя кнігі, і Уладзіміра Някляева, і Уладзіміра Арлова, і іншых аўтараў, якія пазней мы выдавалі ў Польшчы, павінны выдавацца ў Беларусі. Таму што там надалей застаецца асноўны беларускі чытач.

На гэты момант кнігі, якія прадаюцца тут, фактычна нельга завезці ў Беларусь. Хіба што кантрабандным спосабам, які ніколі не бывае бяспечным. Таму кнігі, якія выходзяць у нас, – гэта пераважна кнігі, якія не змаглі б з'явіцца ў Беларусі. Ні кніга "Канстытуцыя" Ганны Янкуты, ні кніга Андрэя Хадановіча, ні кнігі, урэшце, Уладзіміра Арлова, якіх мы выдалі 12, не змаглі б выйсці ў гэты момант у Беларусі. Другое – як я сказаў, ёсць шматлікая беларуская эміграцыя, якая патрабуе беларускай літаратуры. Да іх мы стараемся наблізіць тыя кнігі, якія, магчыма, у Беларусі ўжо выходзілі. Значная частка кніг, якія мы выдаем, у Беларусі ўжо выйшлі. Некаторыя кнігі Уладзіміра Арлова. Мы перавыдалі таксама кнігу прафесара Алега Латышонка "Жаўнеры БНР". Менавіта з такой думкай – каб гэтая кніга трапіла да людзей, якія ў Беларусі гадоў дзесяць таму не мелі магчымасці з ёй пазнаёміцца.

**– Калі стала відавочным, што трэба адкрываць краму?**

– Гэта мы бачылі фактычна з самага пачатку, толькі, як я казаў, арганізацыя ў нас невялікая, і неяк бокам, бокам мы да гэтага падыходзілі. Кнігі так ці інакш прадаваліся ў нас праз інтэрнэт, хаця рабілася гэта вельмі па-партызанску. Часам нават і крыху смешна было. Цяпер гэта паўнавартасная крама.

Я спадзяюся, што з часам у нас у інтэрнэт-краме будуць даступныя і электронныя кнігі. На дадзены момант можна набыць толькі кнігі ў папяровай версіі.

**– Задам пытанне вам як выдаўцу: каму з аўтараў варта стукацца да вас? Калі малады і не дужа вядомы аўтар хоча штосьці выдаць, вам гэта будзе цікава?**

– Будзе цікава. Хаця ў нас, як, напэўна, і ў кожнага выдаўца, магчымасці не з'яўляюцца неабмежаванымі. Нашыя магчымасці невялікія.

**– Чаго асабіста вы чакаеце ад такога новага напрамку ў вашай дзейнасці, як інтэрнэт-крама?**

Мы лічым, што выданне кніжак – гэта ажыццяўленне адной з нашых мэтаў. Спадзяемся, што інтэрнэт-крама – гэта яшчэ адзін штуршок да пашырэння кола аматараў беларускай літаратуры.

bgmedia.site

**школа**

# БЕЛАРУСЫ Ў ГРУЗІІ СТВАРАЮЦЬ БЕЛАРУСКАМОЎНУЮ ШКОЛУ

Аксана Акуневіч спрабуе стварыць першую беларускамоўную школу ў Грузіі. Першы навучальны год школа адпрацавала з 8 вучнямі, але сёлета спадзяюцца, што школьнікаў стане больш.

Яшчэ ў 2022 годзе Аксана ехала з Беларусі ў Грузію з думкамі аб тым, каб працаваць у беларускай школе.

– Я верыла, што мяне чакае працоўнае месца. Тады ў Грузіі было ўжо шмат беларусаў, у людзей былі планы адчыніць беларускую школу на базе неафіцыйнай сямейнай прасторы. Яе стварылі рускія, але фактычна пераважную большасць вучняў той школы складалі беларускія дзеці. Пакуль мы ехалі на машыне – а ехалі доўга праз дрэннае надвор'е і перакрытыя дарогі – жанчына, з якой была дамова на адкрыццё школы, перадумала. Кажа: "Вось, раптам у вас у Беларусі ўсё зменіцца, вы з'едзеце. А як я тут адна застануся, каго я буду вучыць?" Яна адмовілася адкрываць беларускія класы.

Аксана тлумачыць: у Грузіі вельмі цікавая сітуацыя ў сферы адукацыі. Афіцыйна існуюць так званыя сектары: азербайджанскі, армянскі, турэцкі, іранскі, рускі, украінскі ды іншыя. Гэта значыць, што дзеці навучаюцца на пэўнай мове па прагераме той краіны, назву якой носіць сектар. Важны момант: калі сектар афіцыйна адкрыты, то школы атрымліваюць дзяржаўнае фінансаванне ад Грузіі.

– Беларускі сектар спрабавалі адкрыць яшчэ да мяне. Але насустрач тым энтузіястам не пайшлі – яны атрымалі адказ ад мясцовых уладаў, што гэта палітычна нецікава ды і ахвочых мала. Была нейкая ветлівая адмова, кшталту: "Пачакайце крыху, далей бачна будзе".

Жанчына кажа, што на сустрэчах з прадстаўнікамі розных грузінскіх уладаў працягвалі падымаць пытанне наконт беларускага сектару – што ёсць ужо дастаткова дзяцей, якія хочуць навучацца на беларускай мове.

– Аднойчы была сустрэча з амбудсменам па правах чалавека па Аджарыі. Мы распавялі пра нашы праблемы, у тым ліку пра школьную. Развіталіся на вельмі добрай ноце, але падавалася, што на гэтым усё і скончыцца.

Але амбудсмен не забыўся пра беларусаў: ён некалькі месяцаў думаў над тым, што можна зрабіць, і на чарговай сустрэчы распавёў, які варыянт знайшоў. Высветлілася, што ў Батумі ёсць прыватная грузінска-французская школа, якая пагадзілася на эксперымент, каб беларускія класы адносіліся да яе.

На жаль, адкрыццё адбылося даволі позна. Бо прапанову Аксана атрымала летась напрыканцы верасня (у Грузіі навучальны год пачынаецца 15 верасня). Беларускія класы пачалі працаваць з 15 кастрычніка.

Знайсці вучняў было складана праз тое, што навучальны год пачаўся, а ў большасці прыватных школ трэба загадзя ўнесці аплату за год вучобы – калі сям'я з нейкіх прычын



вырашыць забраць дзіця, грошы вярнуць немагчыма.

Зразумела, што большасць бацькоў знайшлі школы да пачатку вучобы. Праз гэта прыйсці ў беларускія класы не змаглі дзеці, якія хацелі навучацца на беларускай мове.

– Калі казаць з пункту гледжання бізнэсу, то гэты праект не мела сэнсу пакідаць летась. Адразу было зразумела, што вучняў будзе мала. Але для мяне гэта была магчымасць, якую было шкада губляць. Я сказала, што гатова пачынаць нават з адным вучнем.

У Аксаны быў неабходны досвед: у Беларусі яна мела дачыненне да адкрыцця трох прыватных школ, а ў Грузіі стварыла беларускую нацыянальную прастору "Аксяродак".

У выніку да беларускай школы далучылася 8 вучняў – гэта дазволіла амаль пакрыць заробкі настаўнікаў. Тэарэтычна былі класы з 1 па 6, але фактычна былі аб'ядналы першы і другі, а таксама чацвёрты, пяты і шосты (трэцяга не было).

– Навучальны план я складала сама. Акрамя асноўных прадметаў дзеці вывучалі грузінскую, французскую і англійскую. Таксама паставіла ў расклад грузінскія танцы і шахматы.

Аксана спадзяецца, што сёлета заявак будзе больш і школу ўдасца пашырыць. Яна таксама плануе набіраць старэйшыя класы – да 10 класа.

Але трывог і хваляванняў хапае:

– Вядома, нас хвалюе сітуацыя нявызначанасці. Не зразумела, што далей будзе ў Грузіі. Кожная гісторыя, калі беларуса не ўпускаюць у краіну пасля візарана дадае нервовасці. Але захоўваем надзею на тое, што ўсё атрымаецца.

nashaniva.com

# "ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЯРАСЛАЎ ВАСІЛЬЕВІЧ"

Такі загаловак спектаклю, прысвечанага незабыўнаму дырэктару Бельскай "тройкі", якога прадпрэм'ерны паказ прайшоў 19 чэрвеня ў Бельскім доме культуры.

Ён створаны на падставе ўспамінаў жыхароў горада. Рэжысёрам спектаклю была Янна Троц, якая вядзе тэатр "Чрэво". Як акцёры выступілі вучні Бельскага белліцэя і пачатковай школы нумар 3 – "тройкі".

Дзень раней у бельскай непублічнай школе нумар 1 імя архіепіскапа Лукі Война-Ясянецкага тэатр "Чрэво" паставіў "Чорт і бабы" паводле п'есы Францішка Аляхновіча.

Спектаклі былі зладжаны супольна з фондам "Яны – гэта мы" ў рамках праекта тэатра "Беларускія вячоркі" пры фінансавай падтрымцы маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

– Сёння нідзе не карыстаюцца беларускай мовай штодзень, таму мы хочам карыстацца ёю ў тэатры, – кажа Янна Троц.

czasopis.pl



Маладыя акцёры перад прэм'ерай спектаклю "Добры дзень, Яраслаў Кастыцэвіч"

**Быкаў**

# ІМПРЭЗА ДА 100-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА Ў НЬЮ-ЁРКУ

29 чэрвеня беларуская супольнасць у Нью-Ёрку сабралася на Атлантык-Авэню 401 у Брукліне, каб ушанаваць памяць Васіля Быкава. Мерапрыемства падкрэсліла яго ўплыў як пісьменніка і актывіста.

Сёлета з ініцыятывы Рады БНР ягоны 100-гадовы юбілей адзначаўся па цэлым свеце, дзе ёсць беларуская прысутнасць. Імпрэзу арганізавала Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне.

Асоба Васіля Быкава – знакавая для Беларусі. Выбітны пісьменнік, грамадскі дзеяч ён стаўся адным з самых уплывовых дзеячаў новага Беларускага Адраджэння. Пра гэта гаварыла ў сваім выступе Ганна Сурмач, якая была асабіста знаёмая з ім і супрацоўнічала ў розных грамадскіх справах. Выступоўца згадала пра тое, што ўпершыню пазнаёмілася з творчасцю пісьменніка ў дзяцінстве на Гарадзеншчыне, калі пачалася друкавацца ягоная “Альпійская балада” ў газеце “Гродзенская праўда”. Далей лёс наканаваў ёй непасрэдна пазнаёміцца з улюбёным пісьменнікам ужо ў Менску. Васіль Быкаў не адмовіўся з-за вялікай занятасці і пагадзіўся паехаць у складзе беларускай дэлегацыі ў Прагу. Сп. Ганна арганізавала напрыканцы 80-х гадоў разам з прафесаркай-багемісткай Ірынай Шаблоўскай гэтую паездку аўтобусам на грант ад Фонду Сораса. Дэлегацыя мела за мэту правесці Тыдзень беларускай культуры ў сталіцы Чэхіі. Мерапрыемства прайшло з вялікім поспехам, найперш, дзякуючы аўтарытэту Васіля Быкава. У выніку праведзеных тады перамоваў з уладамі Прагі ўдалося атрымаць дазвол на ўстаноўку там помніка нашаму першадрукару Францішку Скарыну. Гэты помнік стаіць ў Празе на Градчанах і да сёння.

Сп. Ганна нагадала і пра важную ролю пісьменніка ў стварэнні Беларускага Народнага Фронту. Яна была прысутнаю на тым знакамітым паседжанні ў Чырвоным касцёле 19 кастрычніка 1988 году, на якім было абвешчана аб стварэнні грамадскай арганізацыі “Беларускі мартыралог” дзеля аднаўлення памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Менавіта там быў таксама зацверджаны Арганізацыйны камітэт па стварэнні БНФ. Прысутныя партыйныя апаратчыкі спрабавалі сарваць паседжанне, але Васіль Быкаў рашуча перашкодзіў ім, пазбавіўшы доступу да мікрафона.

Далей улады забаранілі правядзенне Устаноўчага з’езду БНФ у Менску, але ён адбыўся ў Вільні 35 гадоў таму – 24-25 чэрвеня 1989 года, дзе быў прысутны і Васіль Уладзімеравіч. Сп. Ганна згадвала пра той вялікі патрыятычны уздым, які панаваў на з’ездзе, пра беларускую калону з бел-чырвона – белымі сцягамі на вуліцах старажытнай сталіцы ВКЛ. Яна параўнала тыя падзеі з тым, якая атмасфера панавала ў Вільні пад час перапахавання парэшткаў каліноўцаў. Васіль Быкаў увесь далейшы час браў удзел у дзейнасці БНФ і з’яўляўся даверанай асобаю Зянона Пазьняка на першых прэзідэнцкіх выбарах 1994 года.

Васіль Быкаў ставіўся з вялікай павагаю да беларускага замежжа, падтрымліваў усе ініцыятывы, якія былі скіраваныя на устанаўленне сувязяў з эміграцыяй. Напрыканцы 1990 года ён браў удзел ва Устаноўчым сходзе Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, дзе быў абраны першым прэзідэнтам арганізацыі. Пры ягоным прэзідэнцтве ЗБС падрыхтавала і правяло ў Менску 8-9 ліпеня 1993 года Першы з’езд беларусаў свету. Ганна Сурмач была старшынёю Працоўнай групы па падрыхтоўцы з’езду. Разам са сп. Быкавым ёй давялося супрацьстаяць спробам уладаў Кебіча ўзяць з’езд пад свой кантроль і нават стварыць магчымасць перадачы Мандатаў БНР менавіта ўраду Кебіча, які не будаваў дэмакратычную Беларусь і не заслугоўваў гэтага. Васіль Быкаў не дазволіў прадстаўніку ўладаў Пятру Краўчанку адчыніць і весці першыя паседжанні Форуму, дзякуючы гэтаму З’езд прайшоў пад кантролем дэмакратычнай грамадскасці.



Праз 5 гадоў Васілю Быкаву самому давялося выехаць у замежжа, спачатку ў 1998 годзе ў Фінляндыю, потым у Нямеччыну і далей напрыканцы 2002 года ў Прагу. Ён не афармляў свой эміграцыйны статус, але фактычна гэта была эміграцыя з-за немагчымасці больш заставацца ў лукашэнкаўскай Беларусі.

У Празе Васіль Быкаў, па словах сп. Ганны, якая таксама сталася тады эмігранткаю ў Чэхіі, актыўна ўдзельнічаў у мерапрыемствах беларускай суполкі, супрацоўнічаў з Беларускай рэдакцыяй Радыё Свабода, дзе зачытаў для эфіру свае ўспаміны “Доўгая дарога дадому”. Аднак, складаны жыццёвы лёс, былыя раненні і перажытыя стрэсы падарвалі здароўе і Васіль Уладзімеравіч перажыў цяжкую аперацыю ў пражскім шпіталі. Дактары не давалі аптымістычных прагнозаў, і ён вырашыў вярнуцца на Радзіму на апошнім этапе свайго жыцця.

22 чэрвеня 2003 года Васіль Быкаў адышоў у вечнасць у шпіталі ў Бараўлянах пад Менскам. Дата ягонай смерці сталася сімвалічнаю. 22 чэрвеня трагічная дата для Беларусі – гэта пачатак крывавай вайны, якую Быкаў прайшоў цалкам. Ваенныя падзеі, чалавечыя лёсы ў трагічных абставінах сталіся галоўнай тэмаю ягонай літаратурнай творчасці, што зрабіла Васіля Быкава сусветна вядомым пісьменнікам.

Ганна Сурмач больш засяродзілася на грамадскай дзейнасці Васіля Быкава. Наступны выступоўца Зміцер Левіт патлумачыў прысутным, чаму прыйшоў на імпрэзу ў парадной вайсковай форме, як дзейны амерыканскі вайсковец. Гэтым ён хацеў нагадаць, што Васіль Быкаў быў напачатку вайскоўцам, скончыў вайсковую вучэльню і быў адпраўлены на фронт. Ён прайшоў усю вайну, быў паранены, але, на шчасце для ўсіх нас, застаўся ў жывых. Бог даў яму доўгі жыццёвы шлях, каб ён распавёў праўду пра тую вайну, якую савецкая прапаганда прадстаўляла нам як толькі гераічнае змаганне з ворагам. Праўда пра вайну, з крывёю, брудам, неймавернымі фізічнымі і маральнымі пакутамі адкрыла нам вочы на сапраўдную цану гэтай вайны, дзе перамога не прывяла да лепшага жыцця, а толькі ўмацавала савецкі рэжым.

Сп. Левіт асабліва падкрэсліў адметнасць асобы Быкава, як ягоная высокая маральная цвёрдасць, чалавечнасць. Ён трапіў у мясарубку вайны, калі яму было каля 20 гадоў. Не кожны мог маральна адолець перажываныя цяжкасці, не ўсе вытрымлівалі, многія станавіліся больш жорсткімі. Вайна можа ператварыць чалавека у звера, у жорсткага забойцу, для якога чалавечае жыццё не мае каштоўнасці. Але Васіль Быкаў захаваў у сабе маральную стойкасць глядзець на вайну з пазіцыі гуманных каштоўнасцяў. Ён не зламаўся, а наадварот, набыў досвед і веды для таго, каб пазней паказаць у сваіх творах другое аблічча вайны з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў, пра несумяшчальнасць вайны і каштоўнасці чалавечага жыцця.

У другой частцы імпрэзы маладыя людзі, прадстаўнікі новай беларускай эміграцыі, зачытвалі ўрыўкі з успамінаў пра Быкава вядомых асоб – Рыгора Барадуліна, Леаніда Шчамялёва, сястры пісьменніка Валянціны і інш. З гэтых тэкстаў яшчэ больш выразна паўставала асоба Быкава, як чалавека і творцы. Гэту тэатральную дзею падрыхтавала Настасся Дзюйм, прафесійная рэжысёрка, яна падзякавала за ўдзел чытальнікам – Мікіту Манаёнкаваму, Філіпу Налецкаму, Ірыне і Сяргею Ляшко.

Сп. Настасся падрыхтавала для прысутных адмысловую віктарыну, якая паказвала – наколькі яны ведаюць творчасць пісьменніка. Аказалася, што многія справіліся з гэтым выпрабаваннем.

А потым прысутныя даведаліся пра тое, што камень, які ўсталяваны на магіле Быкава ў Менску, быў прывезены ў падарунак з Фінляндыі, дзе некаторы час Быкаў жыў па запросінах ад фінскага ПЭН-цэнтра, як старшыня такога Цэнтру ў Беларусі.

Сп. Настасся падрыхтавала і яшчэ прыемную цікавостку – яна запрасіла ўкраінскую мастачку Вольгу Барынец, якая прапанавала сваю неардынарную форму ўдзелу ў імпрэзе. Пакуль у зале ішла дзея, мастачка малявала на сцэне на мальберце партрэт Васіля Быкава, які быў прадстаўлены ужо гатовым у канцы імпрэзы. Мастачка падаравала свой твор нашаму Беларускаму цэнтру, і цяпер яго змогуць бачыць усе, хто наведаецца да нас.

Вечарына зацягнулася, бо людзі не спяшаліся разыходзіцца. Гаманілі за каваю, знаёміліся, абмяркоўвалі падзеі. У зале панавала сяброўская, прыветная атмасфера. Выглядала, што гэты летні суботні вечар прынёс ім радасць, цеплыню, узаемаразуменне, сяброўскую падтрымку. Магчыма, Васіль Уладзімеравіч і не спадзяваўся, што ягонае імя будуць шанаваць у самых розных краінах, куды сёння накіраваліся новыя хвалі маладых уцекачоў з Бацькаўшчыны ад лукашэнкаўскага рэжыму, але якія і на чыжыне застаюцца беларусамі і шануюць сваіх нацыянальных герояў.

**Аксана Пятрашка, bielarus.info**

гутарка

# Іна Валіцкая: MINSK X MINGA – самы буйны беларускі фестываль у Заходняй Еўропе

Сяброўка Пашыранай Рады згуртавання беларусаў Германіі "RAZAM e. V." і суарганізатарка фестывалю "Minsk x Minga" Іна Валіцкая распавяла, як паўстаў буйны фестываль беларускай культуры ў Баварыі, чым ён адрозніваецца ад "Мюнхеншчыны" і якую падтрымку аказваюць нямецкія ўлады беларускім творцам.

**– Іна, як вы апынуліся ў Германіі і як вы аказаліся звязанай з беларускай культурай?**

– Я прыехала ў Германію больш за 20 гадоў таму. Пасля Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта вырашыла працягнуць адукацыю, скончыла ў Берліне ўніверсітэт, пабралася шлюбам, таму так і засталася ў Германіі. Доўгі час жыла ў Берліне, але ў 2013 годзе пераехала ў Баварыю, у Мюнхен, дзе для людзей з гуманітарнай адукацыяй больш спрыяльныя ўмовы для працы і кар'еры.

Цяпер працую ў галіне інтэлектуальнай уласнасці, у Мюнхенскім офісе адной амерыканскай фірмы. Спачатку патрапіла туды як перакладчыца, а ўжо пасля вывучыла законы і здала адпаведныя іспыты экстэрнам.

Таксама выкладаю ў Мюнхенскім універсітэце Людвіга Максіміліяна (LMU) на кафедры славістыкі. Гэта тое, чым я зарабляю на жыццё, у астатніх праектах я звычайна працую ў якасці валанцёркі.

У 2020 годзе, пасля пачатку масавых пратэстаў і мірнай рэвалюцыі ў Беларусі, я пачала ў групе перакладчыкаў *Voice of Belarus* перакладаць на нямецкую і ангельскую навіны, інтэрв'ю, публіцыстыку з нашай краіны. Мы мелі на мэце распаўсюдзіць інфармацыю незалежных выданняў пра падзеі ў Беларусі па ўсім свеце. Пляцоўка *Voice of Belarus* стала важнай крыніцай ведаў у тым ліку для нямецкіх афіцыйных установаў і медыяў.

І, канечне, я актыўна ўдзельнічала ў мерапрыемствах беларусаў Германіі ў падтрымку мірных пратэстаў на Радзіме. Таму так атрымалася, што трапіла ў лік прадстаўніц дыяспары, якіх запрасілі ў Баварскую Дзяржканцылярыю пазнаёміцца і абмеркаваць тэмы, звязаныя з Беларуссю.

І тады, і зараз адным з асноўных клопатаў згуртавання беларусаў з'яўляецца дапамога ўцекачам з Беларусі, якія апынуліся ў Германіі. Напрыклад, у лагеры ў многіх няма разумення, як дзейнічаць далей і чаго ўвогуле чакаць ад нямецкай бюракратыі.

Але на сустрэчы ў Баварскай Дзяржканцылярыі выявілася, што пытанні, звязаныя з уцекачамі, разглядаюцца на федэральным узроўні. Калі ж я распавяла пра планы і жаданні дыяспары наконт арганізацыі культурных імпрэз, гэта зачапіла прадстаўнікоў Дзяржканцылярыі, і яны прапанавалі падрыхтаваць праект. Так і нарадзіўся фестываль "Minsk x Minga".



Іна Валіцкая і Хрысціна Дарапей

У гэтым годзе мы будзем праводзіць яго ўжо ў трэці раз. Фестываль я ладжу разам з Хрысцінай Дарапей, маёй каляжанкай па RAZAM і сяброўкай. Штогод у самую гарачую пару правядзення фестывалю нам дапамагае каманда валанцёраў.

**– Што азначае назва фестывалю?**

– *Minga* – назва Мюнхена на баварскім дыялекце. Таму назва фестывалю адлюстроўвае жаданне пабудаваць своеасаблівы сімвалічны мост паміж беларускай і баварскай культурамі.

Цягам мінулых гадоў мы займелі добрую рэпутацыю, з намі жадаюць супрацоўнічаць розныя інстытуцыі: кожны раз да "Minsk x Minga" далучаюцца новыя нямецкія фундацыі і ўстановы. Нават калі яны не могуць дапамагчы фінансава, то могуць падтрымаць інфармацыйна ці знайсці памяшканне. Штогод імпрэзаў на фестывалі каля дзясятка: канцэрты, выставы, спектаклі, спевы і танцы і інш.

**– Калі адбудзецца фестываль "Minsk x Minga" ў гэтым годзе?**

– 11-13 кастрычніка ў Мюнхене. Пляцоўкі пакуль раскрываць не можам, паколькі дамовы яшчэ толькі вусныя. Што датычыцца датаў правядзення фестывалю, мы ўлічылі ранейшую крытыку. Раней фестываль праходзіў у апошнія выхадныя школьных вакацый у Баварыі, калі многія жыхары Баварыі яшчэ не паспявалі вярнуцца з паездак (хаця ў нас было багата гасцей з іншых нямецкіх земляў, з Швейцарыі, Аўстрыі, Чэхіі і Польшчы).

Таму мы ўлічылі гэтае пажаданне, як і той факт, што з сярэдзіны верасня да пачатку кастрычніка ў Мюнхене праводзіцца сусветна вядомы *Oktoberfest*, падчас якога горад знаходзіцца ў даволі экстрэмальным стане і кошты на жытло вельмі высокія.

**– Наведвальнікі фестывалю "Minsk x Minga" – гэта перш за ўсё беларусы?**

– Так, але хапае гасцей і з ліку немцаў і замежнікаў. Часта гэта людзі, якія маюць нейкае дачыненне да Беларусі. Мы маем жаданне пашыраць знаёмствы і інфармацыю пра Беларусь, таму прапануем нашым наведвальнікам і наведвальніцам запрашаць сваіх нямецкіх сяброў, каб паказаць нашую багатую культуру. Таксама запрашаем прадстаўнікоў амбасадаў і ўкраінскіх аб'яднанняў.

**– Сустрэў характарыстыку вашага фестывалю як найбуйнейшай штогадовай беларускай культурнай падзеі ў Заходняй Еўропе…**

– Гэта можа выклікаць усмешку, але ж факт застаецца фактам: гэты адзіны беларускі фестываль такога маштабу ў Заходняй Еўропе.

**– Чым адрозніваюцца фестывалі "Мюнхеншчына" і "Minsk x Minga"?**

– У іх вельмі розныя фарматы і мэты. "Мюнхеншчына" перш за ўсё накіравана на згуртаванне дыяспары, знаёмства беларусаў паміж сабою. Яна праходзіць у фармаце намётавага летніка ў лесе з варкшопамі і канцэртамі. Бацькі бяруць з сабою дзяцей, запрашаюць знаёмых.

"Мюнхеншчына-2024", якую я вельмі люблю і ў арганізацыі якой таксама дапамагаю па меры магчымасцяў, праходзіла 28-30 чэрвеня ў Нойбургу-на-Дунаі.

Фестываль "Minsk x Minga", як я ўжо сказала, накіраваны на прасоўванне незалежнай беларускай культуры ў свет, на нараджэнне праектаў паміж баварскімі і беларускімі творцамі.

Дарэчы, мы як прадстаўнікі аб'яднання беларусаў Германіі RAZAM e. V. напачатку года мелі сустрэчу з міністаркай культуры Клаўдзіяй Рот. З боку нямецкіх уладаў мы адчуваем зацікаўленасць і жаданне дапамагаць. Разам з тым не сядзім склаўшы рукі, а звяртаем на сябе і свае праекты ўвагу, ініцыюем кантакты з рознымі структурамі і арганізацыямі. У выніку з'яўляюцца карысныя і цікавыя ініцыятывы.

Напрыклад, пры падтрымцы нямецкага МЗС ужо некалькі год ладзіцца праграма рэзідэнцыяў PerspAKTIV для незалежных беларускіх творцаў – у Польшчы і Германіі. Вынікі гэтых рэзідэнцыяў вельмі цікавыя і значныя, мы імкнемся паказваць іх на нашым фестывалі ў Мюнхене.

**– Многія ўпадаюць у дэпрэсіўны настрой, калі бачаць, што адбываецца ўнутры Беларусі. Што вы робіце, каб не пайсці па такім шляху?**

– Сапраўды, у апошні час нямала людзей, на жаль, адыходзяць ад актывізму. Як сяброўка RAZAM e. V. я бачу задачу ў тым, каб усім тым беларусам, якія хочуць праяўляць актыўнасць і быць карыснымі, мы маглі прапанаваць цікавы сегмент працы. На мой погляд, гэта адзін з найлепшых спосабаў паратунку ў сённяшняй сітуацыі.

Антон Навумчык, budzma.org

памяць

# У Роўне аддалі даніну памяці Міраславу Лазоўскаму



4 ліпеня ў Нацыянальным універсітэце воднай гаспадаркі і прыродакарыстання ў горадзе Роўна адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "З Украінай у сэрцы". Асобна прысутныя ўзгадалі заснавальніка "Белага легіёну", загінулага ў баі за Украіну, Міраслава Лазоўскага.

Кажа дырэктар фонду Аляксей Францкевіч:

– Было шмат людзей, якія выступілі з вітальным словам – намеснік мэра, былі пляменнікі Міраслава Лазоўскага. У Роўне перайменавана дзве вуліцы – адна носіць імя Кастуся Каліноўскага, іншая – Міраслава Лазоўскага. Яны прынеслі з сабой узнагароды, якія ён атрымаў яшчэ пры жыцці. У першую чаргу ён аддаў сваё жыццё за вольную незалежную Беларусь, за будучыню ўсіх беларусаў.

racyja.com

# Памятную дошку ў гонар Кастуся Каліноўскага афіцыйна адкрылі і асвяцілі ў Чарнігаве

Мемарыяльную дошку ўсталявалі на вуліцы Кастуся Каліноўскага на доме, у які трапіў снарад у пачатку сакавіка 2022 года падчас расейскага ўварвання на поўнач Украіны, піша на сваёй старонцы ў Фэйсбук кіраўнік дабрачыннага фонду "Вільна Білорусь" Аляксей Францкевіч.

"Гэтая вуліца раней насіла назву дзеяча часоў Другой сусветнай вайны Смірнова. У гонар Кастуся Каліноўскага яе перайменавалі ў 2024 годзе з ініцыятывы дабрачыннага фонду "Вільна Білорусь", – напісаў Аляксей Францкевіч.

Устаноўку і выраб мемарыяльнай дошкі ініцыяваў і аплаціў дабрачынны фонд "Вільна Білорусь". Асвяціў памятную дошку капелан Яўген Орда.

На памятнай дошцы змешчаная кароткая біяграфія Кастуся Каліноўскага, а таксама ягоная знакамітая цытата: "Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля не будзе".

budzma.org





# У гонар беларускага добраахвотніка назвалі вуліцу ва Ўкраінскім Канатопе

У гонар загінулага беларускага добраахвотніка палка Каліноўскага Івана "Брэста" Марчука назвалі вуліцу ў Канатопе Сумскай вобласьці, паведамляе Полк Каліноўскага ў сваім тэлеграм-канале.

Камандзір батальёну "Волат" Іван "Брэст" Марчук загінуў два гады таму, 26 чэрвеня 2022 году, у баі пад горадам Лісічанск Луганскай вобласці Украіны. Тады група беларускіх добраахвотнікаў трапіла ў расейскую пастку. Групу "Брэста" абстраляў танк. Іван і ягоныя паплечнікі прынялі бой, у выніку чацвёра загінулі, а яшчэ дваіх узялі ў палон. Акрамя Івана Марчука, у тым баі загінулі Васіль "Сябро" Парфянкоў, Васіль "Атам" Грудовік і Вадзім "Папік" Шатроў.

Івана "Брэста" Марчука называлі "аблічам палку Каліноўскага". Як казалі пра яго пабрацімы, Іван – "самы бясстрашны беларускі добраахвотнік ва Украіне".

Іван Марчук – родам з Берасця, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі на спецыяльнасці "Інжынер па тэлекамунікацыях", але кінуў вучобу і з'ехаў у Парыж, каб далучыцца да Французскага легіёну. Некалькі гадоў праслужыў там.

Ад 2015 году быў на вайне ва Украіне. "Больш за ўсё, калі я прыехаў у зону АТА, мяне захапіла і здзівіла тое, як людзі гатовыя ахвяраваць сабой, але нічога не патрабуюць узамен, дзеля ўласнай краіны", – казаў Іван за дзень да смерці ў інтэрв'ю "Радыё Свабода".

Цела Івана, як і астатніх беларусаў, што загінулі ў тым баі, усё яшчэ не аддалі ўкраінскаму боку.

svaboda.org

# У Вільні адбылася вечарына памяці Алеся Пушкіна

Вечарына памяці па беларускім мастаку, рэстаўратару, палітвязню Алесю Пушкіну прайшла ў Вільні 11 ліпеня ў творчай прасторы "Кропка".

У гадавіну яго смерці там адкрылася выстава турэмных малюнкаў мастака, якая будзе доўжыцца да канца ліпеня. Таксама прысутныя маглі пабачыць лісты Алеся Пушкіна з-за кратаў на волю, якія ён пісаў беларусам.

Імпрэза памяці пачалася з выступу праваслаўнага святара Георгія Роя і яго малітвай за душу памерлага.

– Ён пакутнік, ён сведка любові да Радзімы, праўды, Хрыста. Ён быў хрысціянінам, і гэта адзін з чыннікаў, разам з любоўю да Радзімы, што прывёў яго на гэтую Галгофу. Ён перадаў агонь любові да Айчыны, да праўды, якія мы маем адказнасць захаваць і перадаваць.

Падчас вечарыны прысутныя паглядзелі і відэа з пахавання мастака. Паводле спадарыні Аксаны Хіневіч, якая была на пахаванні творцы, шмат людзей пабаяліся прыехаць і развітацца з ім. Яна не бачыла ў гэтым вялікай небяспекі.

– Мне распавядалі вельмі шмат легенд, што столькі людзей затрымалі пасля пахавання, столькі было машын міліцыі. Нікога я там не бачыла, нікога! Страх проста ў людзей. Я ніводнай не бачыла машыны чужой, на могілках не было міліцыянтаў, нават мясцовых – усе ж адзін аднаго ведаюць. Вельмі шмат нашых знаёмых пабаяліся ісці на пахаванне.

Алесь Пушкін памёр 11 ліпеня 2023 года ў гарадзенскім шпіталі пасля аперацыі, куды яго прывезлі з турмы. Яму не была своечасова аказаная



дапамога, калі ў яго ўзнікла прабадная язва.

Алесю Пушкіну было 57 гадоў. Пахавалі мастака ў яго роднай вёсцы Бобр Крупскага раёна.

racyja.com

навіны

# ПРАГРАМА РАДЫЁ "РАЦЫЯ" БУДЗЕ ГУЧАЦЬ НА ХВАЛЯХ ЛАТВІЙСКАГА "РАДЫЁ-4"

Праграма Беларускага радыё Рацыя "Месца для прэсы" будзе гучаць на хвалях латвійскага "Радыё-4". Гутарка з Аннай Строй – галоўнай рэдактаркай латвійскага Радыё-4.

**– У нас ["Радыё Рацыя"] будзе больш слухачоў. Пашыраецца і вяшчанне латвійскага "Радыё-4". Раскажыце пра гэтую канцэпцыю. На каго скіраваныя вашыя перадачы?**

– Перадусім, мы канал грамадскага латвійскага радыё. Мы імкнемся працаваць у інтарэсах грамадства, а не палітыкі. У нас існуе такое панятце, як грамадскі заказ – у ім заўжды прысутнічае ідэя таго, што на хвалях латвійскага "Радыё-4" мусяць гучаць розныя мовы – мовы тых народаў, якія жывуць у Латвіі. У нас заўжды былі беларускія перадачы, дакладней, гэта была адна перадача "Світанак", і яна была падрыхтаваная сіламі нашага нацыянальна-культурнага таварыства і расказвала пра лакальныя мерапрыемствы культурнага плана захоўвання роднай культуры, роднай мовы. Але, вядома, пасля 2020 года нам хацелася павялічыць сваё беларускае вяшчанне. І вось зараз такая магчымасць у нас ёсць, у тым ліку дзякуючы вам, дзякуючы праграме "Месца для прэсы".

І ўвогуле гэта зараз вельмі настойлівае патрабаванне і палітыкаў, і часткі латвійскага грамадства спыніць дамінаванне расейскай мовы. У нас прыкладна 54,5 тысячы беларусаў у Латвіі, і менш за 1% размаўляюць у сем'ях на беларускай мове. Тым не менш, мы вельмі хочам, каб гучала менавіта беларуская мова, бо для нас гэта мае вялікі сімвалічны сэнс. І мы лічым, што нават, калі чалавек не разумее ці не выкарыстоўвае кожны дзень у сваёй сям'і родную мову, мову сваіх продкаў, тым не менш, для сапраўдных беларусаў важна, каб на хвалях гучала ягоная мова. У тым ліку, мы зараз думаем і пра пашырэнне вяшчання на ўкраінскай мове. Гэта ў нас задачы, пастаўленыя палітычнай уладай, але пры гэтым, мы, як калектыў радыё, падзяляем іх і гатовыя ўвасабляць іх у жыццё.






**– Як выглядае медыйная прастора ў Латвіі? У Беларусі дамінуюць дзяржаўныя СМІ, а незалежныя выпіхнутыя з краіны. Але ў Латвіі, відаць, ёсць іншыя праблемы ў журналістаў?**

– Гэта праўда, гэта жорсткае спаборніцтва з тымі, каго мы называем грамадскімі журналістамі, блогерамі ці інфлюэнсерамі. Бо часам прафесійная журналістыка, якая скіраваная на праверку фактаў, перадусім, на тое, каб атрымаць каментар першакрыніцы, мы прайграем у аператыўнасці. Таму ў нас такія праблемы. Але пры гэтым я лічу, што зараз рынак прэсы, радыё і тэлебачання вельмі моцна скарачаецца, перадусім, праз інтэрнэт-парталы, а зараз ужо – праз сацыяльныя медыя.

**– Дзе шукаць ратвійскае "Радыё-4"?**

– Я б хацела парэкламаваць платформу аб'яднаных грамадскіх СМІ латвійскіх – зараз яна называецца *rus.lsm.lv*. Але ў свеце таго, пра што мы казалі, хутка партал памяняе сваю назву, ён будзе называцца *lsm.plus*. І там можна знайсці і нашае радыё і тэлебачанне.

Паралельна прэм'ера гэтай перадачы гучыць у эфіры "Радыё Рацыя" і ў "Радыё-4" а 19.05 латвійскага і беларускага часу, а 18.05 польскага часу кожны чацвер.

На сумежжы з Беларуссю "Радыё-4" чуваць на частотах 88,7 (Даўгаўпілс), 94,5 (Скайста), 104,2 (Рэзэкне).

**racyja.com**

дапамога

# Батумі: ШЭЛТАР ПАСПРЫЯЕ З МЕДЫЧНАЙ ДАПАМОГАЙ

Прадстаўнікі беларускага шэлтара з грузінскага Батумі паспрыяюць з аказаннем першай медычнай дапамогі для былых палітзняволеных з Беларусі.



Па якую дапамогу могуць звяртацца беларусы распавядае Міхась, адміністратар гэтага шэлтара:

– Медычнай дапамогай наша арганізацыя дапамагае не толькі ў Грузіі, але і ў Польшчы і ў Летуве, ёсць яшчэ некалькі краін, якія ў планах. На гэты момант гэта мінімальная медычная дапамога – вырашыць гарачыя праблемы нашага падапечнага. Зуб баліць напрыклад. Нешта тэрміновае, што трэба прама зараз дзейнічаць.

Шэлтар для для былых палітзняволеных з Беларусі, ці тых асобаў, якія былі вымушаныя пільна з'ехаць з Беларусі, баючыся палітычнага пераследу дзейнічае ў грузінскім Батумі ўжо больш за тры месяцы і каб туды трапіць – трэба напісаць на тэлеграм.

**racyja.com**

in memoriam

# ПАМЁР ЖУРНАЛІСТ І ПІСЬМЕНЬНІК ВІТАЛЬ КАРАКОРСКІ

6 ліпеня ў Вільні адышоў у лепшы свет Віталь Каракорскі, літоўскі, габрэйскі і беларускі грамадзкі дзеяч, журналіст і пісьменнік. Пра смерць Віталя паведаміў у фэйсбуку ягоны сын Даніэль.

Віталь Каракорскі нарадзіўся 2 студзеня 1958 году ў Бабруйску. Сваім дзіцячым і юнацкім гадам прысвяціў тры эсэ, якія зачытваў у адмысловых перадачах беларускай службы Радыё Свабода: "Бабруйск. 1960-я. Эсэ пра дзяцінства", "Біржа эмігрантаў", "Бабруйская багема".

Не аднойчы выступаў на хвалях нашага радыё як эксперт у справах пашырэння NATO на ўсход, ізраільска-палестынскага канфлікту, суду над камунізмам, халакосту ў Беларусі – "Ці адказныя беларусы за халакост?" ды іншых.



Віталь вызначаўся дасведчанасцю ва ўзнятых тэмах і канцэптуальным поглядам на іх.

Віталь Каракорскі браў удзел ува ўсіх беларускіх медыйных праектах у Літве, спрычыняўся да беларускай грамадскай дзейнасці, быў сябрам Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

**svaboda.org**

**in memoriam**

# ПАМЁР ДЗЕЯЧ БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ – ХВЕДАР ГАЛЁНКА



У амаль стогадовым узросце ў Варшаве памёр – Хведар Галёнка. Шматгадовы дзеяч беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэта прадстаўнік пакалення, якое ў было ля вытокаў беларускага руху ў пасляваенны час.

Згадвае старшыня Беларускага саюзу ў Польшчы, Яўген Вапа, які пазнаёміўся з Хведарам Галёнка ў 80-я:

– Словы спачування сям'і Хведара Галёнкі, словы спачування ўсім тым, хто яго ведаў і памятаў. Яго вобразнасць, характэрнасць, гумар і іронія Хведара Галёнкі, гэта неад'емная частка нашых сустрэч. Апынуўшыся ў Варшаве, ён ужо быў знаёмы мне, як асоба з тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва". Ягоная актыўнасць у Беларускім грамадска-культурным таварыстве, менавіта варшаўскага аддзелу, гуртка БГКТ, была знаёмая. Чалавек быў завочна знаёмы. Ён нарадзіўся непадалёк ад мяне – у Пасечніках Вялікіх. Ён быў знаёмы мне яшчэ з пачатковай школы, бо я вучыўся з яго пляменнікам. Мы сядзелі за аднοй партай, святой памяці Ясем Галёнкам, гэта быў сын яго брата. Таму я ведаў пра дзядзьку, які такі важны і слаўны ў Варшаве.

**– Ён быў адміністратарам варшаўскага клубу па вуліцы Сенатарскай.**

– Тое, што ён, кіруючы гэтым клубам, дазволіў нам увайсці ў гэты клуб, у тым ліку дазволіў доўгі час там начаваць там шматлікім студэнтам у вакацыйны перыяд. Для мяне гэта тое пакаленне, той час калі ягоныя шырокія кантакты ў свеце дазвалялі функцыянаваць беларускаму аддзелу ў зусім іншай прасторы. Верхам элегантнасці і прэстыжнасці варшаўскага гуртка БГКТ былі навагоднія балі паводле праваслаўнага стылю. Увесь беластоцка-падляшскі істэблішмент з'язджаўся ў Варшаву, каб пабаляваць у Палацы культуры. Было відаць, што баль выклікае асаблівую цікавасць. Сярод тых, хто прыходзіў, былі вайскоўцы, лекары, юрысты, працаўнікі высокіх ведамстваў.

racyja.com

# 28 ЧЭРВЕНЯ Ў ВАРШАВЕ РАПТОЎНА ПАМЁР ВІЦЕБСКІ ПРАВААБАРОНЦА ЛЕАНІД СВЕЦІК

Спадар Леанід дапамагаў жыхарам рэгіёна прававымі і юрыдычнымі парадамі, спрыяў развіццю незалежнага друку на Віцебшчыне. У розны час быў выдаўцом і рэдактарам некалькіх інтэрнэт-СМІ. У 2021 годзе быў вымушаны пакінуць Беларусь праз пагрозу крымінальнага пераследу.

Нейкі час Леанід Свецік жыў ва Украіне, потым пераехаў у Польшчу. У Варшаве працягваў займацца праваабарончай і рэдактарскай дзейнасцю.



Цягам апошніх гадоў Леанід пакутаваў на гіпертанію, але імкнуўся сачыць за сваім станам, рэгулярна прымаў лекі. Здароўе іншым разам падводзіла – здараліся рэзкія скачкі артэрыяльнага ціску. Так атрымалася і ў той дзень, калі яго не стала, падвышэнне ціску стала фатальным. Хуткая дапамога, якая прыехала ў лічаныя хвіліны пасля выкліку, спрабавала выратаваць ягонае жыццё, але магчымасці лекараў не бязмежныя…

Леаніду Свеціку было 59 гадоў. Апошнія 15 з іх ён цесна супрацоўнічаў з журналістамі па пытаннях праваабароны. А яшчэ Леанід пісаў вершы, якіх шмат засталося ў рукапісах і камп'ютарных нататках.

baj.media

# ПАМЕРЛА ЧЭШСКАЯ БЕЛАРУСІСТКА ФРАНЦІШКА СОКАЛАВА

Францішцы Сокалавай было 86 гадоў. Пра смерць паведаміў яе сын.

Большую частку жыцця Францішка Сокалава працавала ў Славянскай бібліятэцы, дзе праз яе рукі прайшлі многія ўнікальныя беларускія старадрукі – напрыклад, віленскае Евангелле Пятра Мсціслаўца.

А пасля таго як у канцы сямідзясятых у Празе знайшлася невядомая скарыніяна – фрагменты "Кнігі Суддзяў" – лёс беларускага першадрукара стаў пажыццёвай даследчыцкай тэмай спадарыні Сокалавай.

Францішка Сокалава – дачка выбітнага філосафа Яна Патачкі, дысідэнта, аднаго з заснавальнікаў "Хартыі-77". Яна пераклала на чэшскую мову творы Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова, Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава. Яна шмат чым дапамагала беларусам.

nashaniva.com



## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2024 года

**2 жніўня**
• 125 гадоў таму, у 1899-м, памёр Ян Ванькові́ч, мастак.

**5 жніўня**
• 160 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.
• 35 гадоў таму, у 1989-м, памёр Лазар Ран, мастак.

**6 жніўня**
• 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, бібліятэказнавец, літаратуразнавец. Памёр у 1953-м.
• 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Міхась Рагуля, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 2002-м.
• 30 гадоў таму, у 1994-м, у Вільні пачаўся З'езд беларусаў Балтыі.

**7 жніўня**
• 145 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Пётр Крачэўскі, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР. Памёр у 1928-м.

**10 жніўня**
• 95 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Алесь Ставер, пісьменнік. Памёр у 1995-м.

**14 жніўня**
• 230 гадоў таму, у 1794-м, нарадзіўся Міхаіл Балінскі, гісторык. Памёр у 1863-м.

**15 жніўня**
• 100 гадоў таму, у 1924-м, нарадзіўся Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 2003-м.

**16 жніўня**
• 155 гадоў таму, у 1869-м, памерла Габрыэля Альбіна Пузына, паэтка.

**20 жніўня**
• 105 гадоў таму, у 1919-м, памёр Іван Луцкевіч, археолаг, этнограф.
• 100 гадоў таму, у 1924-м, у Празе створана Аб'яднанне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (АБСА).

**26 жніўня**
• 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Сяргей Новік-Пяюн, пісьменнік.

**28 жніўня**
• 280 гадоў таму, у 1744-м, памёр Васіль Вашчыла, кіраўнік узброенага сялянскага паўстання ў Крычаўскім старостве ў 1740-х гг.
• 150 гадоў таму, у 1874-м, нарадзіўся Аляксандр Уласаў, выдавец. Памёр у 1941-м.
• 90 гадоў таму, у 1934-м, нарадзіўся Васіль Мельяновіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 2004-м.
• 20 гадоў таму, у 2002-м, у Празе пачалася Першая сустрэча беларусаў Еўропы.

**30 жніўня**
• 220 гадоў таму, у 1804-м, нарадзіўся Аляксандр Ходзька, паэт, фалькларыст, усходазнавец. Памёр у 1891-м.
• 95 гадоў таму, у 1929-м, памер Паўлюк Трус, паэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 7 (266), ліпень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com